№ 8 (24) 1997

# Каталіцкія навіны



Інфармацыйны бюлетэнь

Выданне Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Рыма-Каталіцкага Касцёла

***З 7 да 14 ліпеня г.г. на Беразе Слановай Косці адбылася II Міжнародная святарская сустрэча, прысвечаная Вялікаму Юбілею 2000-га Года***

***(гл.с.9-11)***

**Папа Ян Павел II гаворыць пра Сінод наступнае:**

*«Сінод – гэта сход, у якім паміж сабой пераплятаюцца традыцыі і сучаснасць. З традыцый мы павінны чэрпаць вопыт і навучацца, як можна вырашаць сённяшнія праблемы. А іх вельмі шмат. У перспектыве двухтысячнага года неабходна шукаць эфектыўныя шляхі евангелізацыі – сёння мы гаворым пра неабходнасць новай евангелізацыі хрысціянскай Еўропы – і трэба шукаць адэкватныя адказы на патрабаванні нашага часу. Гаворка ідзе пра тое, каб адвечная праўда Божая сёння трапляла да чалавека і да грамадскасці нейкім новым чынам, а дакладней, каб Касцёл, у дадзеным выпадку лакальны Касцёл [...], уваходзіў па-новаму, з новай рашучасцю і шчырасцю, у план Божы і выконваў яго згодна з нашым часам. З гэтай мэтай Сінод дыяцэзіі будзе глыбока вывучаць вучэнне Другога Ватыканскага Сабору, каб у яго святле і ў святле сваіх багатых традыцый, а таксама сучаснага вопыту натхніць і стварыць новую базу для душпастырства, катэхізацыі, прапаведніцтва; каб ажывіць парафіі, а ў іх, перш за ўсё, сям'ю, іншыя супольнасці і асяроддзі. Маецца на ўвазе ажыўленне служэння Касцёла на прасторным полі хрысціянскай любові і міласэрнасці, у галіне культуры згодна з сацыяльным вучэннем Касцёла.[...]*

*Душпастырства, евангелізацыя – гэта найбольш важныя справы Касцёла, сутнасць яго быцця. Гэта справы не толькі духавенства, але і ўсіх ахрышчаных. Таму таксама Сінод [...] стане, пад кіраўніцтвам вашага біскупа, сходам духоўных і свецкіх, які згодна з духам веры правядзе ўсебаковы аналіз «стану набытку» Касцёла, каб здабыць са сваёй скарбніцы ўсё тое, што зробіць яго місію яшчэ больш эфектыўнай і плённай на пераломе другога і трэцяга тысячагоддзя евангелізацыі свету».*

*05.06.1991г.*

*Па меры нашага знаёмства са словамі Папы мы ўсё больш здабываем ведаў пра Сінод і ўсё больш паддаемся іх магутнасці і дынамізму.*

*Мабыць, гэтаму спрыяюць, у прыватнасці, спецыяльна ўжытыя канструкцыі сказаў і выкарыстаныя дзеясловы. Выпішам іх у такой паслядоўнасці, у якой яны ўжыты аўтарам.*

**СІНОД ПАВІНЕН:**

- чэрпаць (вопыт...);
- навучацца (...);
- вырашаць (праблемы...);
- шукаць (шляхі...);
- шукаць (адказы...);
- трапляць (да чалавека...);
- уваходзіць (па-новаму ў Божы план...);
- выконваць (Божы план збаўлення...).

**З ГЭТАЙ МЭТАЙ СІНОД ПАВІНЕН:**

- вывучаць (вучэнне II Ватыканскага Сабору, традыцыі...);
- натхніць і стварыць (новую базу для...);
- ажывіць (парафію, сям'ю...);
- ажывіць (служэнне Касцёла...);
- сачыць (за патрэбамі...).

**ТАДЫ СІНОД:**

- стане (сходам...);
- правядзе (аналіз...);
- здабудзе (усё...), каб
- зрабіць (місію партыкулярнага Касцёла больш эфектыўнай...).

***Заўважым, што дзеясловы, выкарыстаныя Папам Янам Паўлам II у выступленні 5 чэрвеня 1991 г., выстройваюцца ў кампактную паслядоўнасць думак, якую можна прыняць за навучанне методыцы працы Сіноду.***

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

# Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі пра дыяцэзіяльны Сінод

*Роздумы Слугі Божага адносяцца да 1927-1929 гадоў – часу, калі ў каталіцкім Касцёле дзейнічаў Кодэкс кананічнага права, абвешчаны ў 1917 годзе. Названы кодэкс страціў юрыдычную сілу ў 1983 годзе.*

Слуга Божы біскуп Зыгмунт Лазінскі лічыў, што дыяцэзіяльны Сінод неабходны для падтрымання жыцця дыяцэзіі ў належным парадку. Таму ён думае пра патрэбы вернікаў, умовы душпастырства, метады кіравання дыяцэзіяй; адмаўляецца ад лішніх правілаў і прымае новыя, якія дапамагаюць захаванню закона паўсюднага Касцёла ў дыяцэзіі.

**Сінадальныя працы** і іх вынікі, на думку Слугі Божага, **павінны прычыніцца** да пашырэння хвалы Божай і Валадарства Хрыста на зямлі, ажыўляць веру і распальваць любоў сярод усіх насельнікаў дыяцэзіі, дапамагаць ім пазбаўляцца ад грахоў, выкараняць недахопы і заганныя звычкі, здабываць хрысціянскія дабрачыннасці і прыводзіць да Бога тых, хто Яго яшчэ не ведае. Сінод – гэта справа ўсіх дыяцэзіянаў.

Божы Слуга прадбачыў, што праца **Сіноду будзе цяжкай па трох прычынах:** дыяцэзія складаецца з дзвюх розных частак Мінскай і Віленскай дыяцэзій; адсутнічаюць сінадальныя традыцыі; католікі жывуць пераважна сярод людзей, якія вызнаюць іншую веру. Але ўсе гэтыя цяжкасці яго не спалохалі і не пазбавілі жадання склікаць Сінод, а наадварот, прыспешылі.

*

Добра разумеючы ўсе цяжкасці, а таксама тое, што Сінод можа прынесці чаканы плён для дыяцэзіі, а тым самым і для ўсяго Касцёла, дзякуючы асаблівым ласкам, асаблівай звышпрыроднай дапамозе, кс.біскуп Зыгмунт заклікаў усіх дыяцэзіянаў да малітвы на карысць Сіноду, абагачаючы прадпісаныя ім малітоўныя формы 50-дзённым одпустам.

Каштоўныя таксама роздумы Слугі Божага над пытаннямі стварэння пабожнай атмасферы, якая б агортвала і пранікала ў дзейнасць Сіноду Пінскай дыяцэзіі.

У пастырскім Лісце ад 30 снежня 1927г., які абвяшчаў скліканне Сіноду, ён пісаў: *«Дадзенае наша пасланне захочуць шаноўныя святары прачытаць люду вернаму з амбоны пасля казання ў дзень Трох Каралёў і пра яго змест напамінаць на працягу трох апошніх тыдняў, непасрэдна Сінод папярэджваючых, а таксама, малячыся за ласкі Духа Святога, адспяваць з прысутнымі ў касцёле за гэтыя тры тыдні ў часе адарацыі Найсвяцейшага Сакрамэнту, «Veni Creator» з вершамі і малітвай і прачытаць літанію да WW.SS. з усімі дадаткамі, якія ёсць у малітоўніку».*

Сваю просьбу ён працягваў у пастырскім Лісце ад 7 ліпеня 1929г.: *«...звяртаюся да майго любага люду вернага з просьбай, каб вы ўсе, дзеці ў Хрысце, аб'ядноўваліся сэрцам шчырым са мной і з духавенствам маім у малітве з просьбаю аб святле Божым і ўсіх дарах Святога Духа, так нам вельмі неабходнага. Распараджаюся таксама гэтым, каб ва ўсе тыдні, якія засталіся да ўрачыстасці Нараджэння НМП, быў прачытаны перад адкрытым табэрнакулюмам гімн: «Прыйдзі, Найсвяцейшы Дух Хвалы» (як падчас навэнны перад Тройцай), былі адспяваны малітоўныя спевы і наступная малітва: «Молімся: Натхняй, просім Цябе, Пане, духам сваім дзеянні нашы і суправаджай іх сваёй дапамогай, каб усе нашы малітвы і ўчынкі ад Цябе заўсёды пачыналіся і ў Табе сваё заканчэнне знаходзілі. Праз Хрыста Пана нашага. Амэн». – Пасля благаславення належыць прачытаць (ці праспяваць) акты: «Няхай будзе Бог благаслаўлёны" і г.д.».*

*За кожны ўдзел у гэтых малітвах (па магчымасці кожнага) прадстаўляю згодна з уладай, дадзенай мне Апостальскай Сталіцай, 50 дзён одпусту. Такі ж одпуст могуць заслужыць тыя, хто не мог прысутнічаць падчас вышэйназваных малітваў у касцёле, але пабожна прачытаў (асобна ці разам) на карысць Сіноду, які набліжаецца, адзін дзесятак св.Ружанца.*

*Любым сынам маім, выхаванцам маіх семінарый, рэкамендую, апрача таго, каб на карысць гэтую чыталі штодня Ps. Miserere з Gloria Patri, і да кожнаразовага (адзін раз на дзень) пабожнага чытання далучаю той самы одпуст у 50 дзён».*

*

Вераю, любоўю, клопатам, адказнасцю, бацькоўскай непасрэднасцю, а таксама разнастайнасцю малітваў да кожнай з Асобаў Найсвяцейшай Тройцы і да Маці Божай прасякнуты абодва пастырскія Лісты. Менавіта яны спрыялі гэтай пабожнай атмасферы, так важнай для працы і вынікаў Сіноду.

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

---

Апрацавана на аснове: Prima Synodus dioecesanam Pinskensis, Pinsci 1934, s. XVI-XVII, XIX-XX, XXXII-XXXIII, L ns.

# Структура і змест пастаноў Сіноду Пінскай дыяцэзіі ў 1929 годзе

Статуты Сіноду Пінскай дыяцэзіі (усяго іх 569) застаюцца ў цеснай сувязі з тагачасным заканадаўствам паўсюднага Касцёла. Пра гэта сведчыць структура зместу дакумента, а таксама размеркаванне зместу па асобных канонах.

Аўтары дакумента не перапісвалі каноны з Кодэксу кананічнага права, а адсылалі да іх зместу, часта да некалькіх адначасова.

Вельмі шмат статутаў не спасылалася непасрэдна на каноны, а з'явіліся яны ў працэсе разгляду асобных тэмаў з жыцця Пінскай дыяцэзіі.

Менш за ўсё прысвечана месца агульным прынцыпам закона (8 статутаў), а таксама Суду Біскупа (3 статуты), затое шмат месца адведзена асобам (154 статуты), а найбольш – сакрамэнтам і культу, а таксама касцельнай навуцы (401 статут). Такім чынам, вузкаспецыяльныя прававыя праблемы пакінуты юрыстам, а ўвага ўдзяляецца людзям і душпастырству.

Кніга II, прысвечаная асобам, апавядае аб правах і прывілеях духавенства, шмат пра абавязкі духоўных асоб, звяртае асаблівую ўвагу на аскетызм, форму, святарскую годнасць, а таксама на абавязак насіць убранне святара. У раздзеле, прысвечаным «асобным духоўным асобам», акцэнты расстаўляюцца па-рознаму.

Пададзены пералік (гл.табліцу справа) адлюстроўвае праблематыку Сіноду, а таксама ўказвае на мноства жыццёвых тэм для Пінскай дыяцэзіі, якія патрабавалі апрацоўкі без спасылкі на пэўныя каноны Кодэкса кананічнага права. Статутныя запісы сведчаць аб праніклівасці роздумаў аўтараў, а таксама вялікай адказнасці за лакальны Касцёл.

## КОЛЬКАСЦЬ СТАТУТАЎ

| | агульная | са спасылкаю на канон |
|---|---|---|
| пра Рымскага Біскупа | 8 | - |
| пра біскупаў | 7 | - |
| пра курыю дыяцэзіі | 2 | - |
| пра дзеканаў | 21 | 8 |
| пра прабошчаў | 24 | 4 |
| пра парафіяльных вікарыяў | 13 | - |
| пра манахаў | 8 | 2 |
| пра ўсходнія рытуалы | 7 | 1 |
| пра свецкіх людзей увогуле | 7 | 1 |
| пра задзіночанні і брацтвы | 8 | 2 |
| пра каталіцкую грамадскую дзейнасць | 11 | 1 |
| **Усяго** | 116 | 19 |
| Кніга III | | |
| пра сакрамэнты | 12 | 6 |
| пра хрышчэнне | 19 | 8 |
| пра бежмаванне | 11 | 4 |
| пра Найсвяцейшую Эўхарыстыю | 34 | 15 |
| пра пакуту | 25 | 8 |
| пра одпусты | 5 | - |
| пра апошняе намашчэнне | 14 | 3 |
| пра святарства | 9 | 5 |
| пра шлюб | 44 | 14 |
| пра сакрамэнталіі | 5 | 1 |
| пра святыя месцы | 29 | 5 |
| пра могілкі і пахаванне | 26 | 9 |
| пра святыя часы | | |
| пра святочныя дні | 5 | 2 |
| пра пост і ўстрыманне | 7 | 1 |
| пра Божы культ | 35 | 5 |
| пра захаванне і шанаванне Найсвяцейшага Сакрамэнту | 22 | 4 |
| пра шанаванне святых, ікон і рэліквій | 6 | 4 |
| пра працэсіі | 6 | 2 |
| пра літургічныя прадметы і ўбранне | 4 | - |
| пра касцельную навуку | | |
| пра агульнае навучанне | 10 | 4 |
| пра абвяшчэнне слова Божага | 6 | 4 |
| пра прапаведаванне | 15 | 2 |
| пра святую місію | 6 | 1 |
| пра семінарыі дыяцэзіі | 7 | 1 |
| пра школы | 15 | 3 |
| пра бенефіцыі і касцельную маёмасць | 22 | 12 |
| пра бібліятэку, музей і архіў дыяцэзіі | 2 | - |
| **Усяго** | 401 | 123 |

*Сінод Мінска-Магілёўскай дыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, падобна кожнаму Сіноду, з'яўляецца сходам, у якім павінны пераплятацца паміж сабой традыцыі ці, напр., пастановы папярэдняга Сіноду і сучаснасць. З традыцый неабходна чэрпаць вопыт і вучыцца, як вырашаць сучасныя праблемы. Таму таксама адказныя за наш Сінод павінны ўважліва пазнаёміцца з дакументам: «Prima Synodus Dioecesana Pinskensis». Pinsci 1934.*

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

# *ПАКЛІКАННЕ І ПАСЛАННІЦТВА СВЕЦКІХ ВЕРНІКАЎ У КАСЦЁЛЕ І Ў СВЕЦЕ*

***«Ідзіце і вы ў мае вінаграднікі»***
*(пар.Мц 20,3-4)*

*«Гэты заклік, абвешчаны Хрыстом, датычыць не толькі біскупаў, святароў, законнікаў і законніц, але таксама ўсіх свецкіх, якіх Бог прызывае асабіста, даваючы ім выконваць місію ў Касцёле і ў свеце»*
***Ян Павел II***
***Christifideles laici, n. 2***

Пакліканне і пасланніцтва свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце – тэма, якою займаліся Другі Ватыканскі Сабор, надзвычайны Сінод біскупаў, Папа Ян Павел II і яго папярэднікі ў Апостальскай Сталіцы. Займаецца ёю таксама Сінод Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі, прысвячаючы ёй шэраг пасяджэнняў Каардынацыйнай Камісіі і Сінадальных Супольнасцяў, як парафіяльных, так і дэканальных. У размовах і сінадальных пасяджэннях, прысвечаных дадзенай праблеме, павінны дапамагчы «Сінадальныя матэрыялы», сшытак 3 (64 старонкі, на беларускай і польскай мовах).

У дадзеным артыкуле ў значным скарачэнні будзе абмеркавана адгартацыя Яна Паўла II пад назвай *Christifideles laici*, прысвечаная «Свецкім католікам» і апрацаваная, перш за ўсё, на падставе дакументаў Другога Ватыканскага Сабору, а таксама папскай гаміліі і матэрыялаў, перададзеных Святому Айцу надзвычайным Сінодам біскупаў, які адбыўся ў 1987 годзе.

**Галоўнай прычынай** звароту Сінода біскупаў і Папы Яна Паўла II да праблематыкі свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце, было выкананне наказу Хрыста: «Ідзіце і вы ў мае вінаграднікі» (пар.Мц 20, 6-7), якімі з'яўляецца ўвесь свет (пар.Мц 13, 38) (пп. 1 і 2). Сінод біскупаў і Папа мяркуюць, што сёння яшчэ вельмі шмат вернікаў, якія бяздзейнічаюць, якіх ніхто яшчэ не заангажаваў, у той час як «Нікому не пасуе бяздзейнічаць» (3).

**Дакумент сінтэтычна прадстаўляе навучанне рыма-каталіцкага Касцёла аб свецкіх верніках і іх ролі ў Касцёле і ў свеце. Ён лічыцца свайго роду падручнікам для ўсіх свецкіх вернікаў, вельмі неабходным для разумення і рэалізацыі свайго паклікання.**

Можна толькі жадаць, каб пераклад дадзенага дакумента на беларускую мову як мага хутчэй трапіў для карыстання.

Папа піша пра годнасць свецкіх католікаў у Касцёле (8-17), пра іх удзел у жыцці Касцёла (18-31), указвае на іх агульную адказнасць за місію Касцёла, даручаную яму Хрыстом (32-56), а таксама прапануе спецыяльную інтэгральную і пастаянную форму, дзякуючы якой, яны, як «добрыя адміністратары разнастайнай ласкі Божай», будуць з кожным разам усё больш вартымі супрацоўнікамі Бога (57-63). Адгартацыя – гэта вучэнне пра годнасць чалавечай асобы, пра яе супрацоўніцтва з Асобай Боскай у справе збаўлення.

**Свецкія вернікі – паўнапраўныя члены Касцёла. Яны займаюць у ім адпаведнае месца. Больш таго – яны «з'яўляюцца Касцёлам» (9). Яны разам з іншымі вернікамі ўдзельнічаюць адпаведна свайму пакліканню ў жыцці Касцёла і яго пасланніцтве.**

***Што азначае «ўдзельнічаюць, адпаведна свайму пакліканню, у жыцці Касцёла і яго пасланніцтве»?***

Гэта азначае, удзельнічаць уласным спосабам – свецкім, а не так, як святары ці манахі. Застаючыся ў свеце і карыстаючыся прыладамі і сродкамі гэтага свету, свецкія вернікі пераўтвараюць яго пры дапамозе сілы Евангелля. І гэту творчую дзейнасць яны распачынаюць з сябе. Працуюць над уласным асвячэннем і дабро гэтае – святасць, нясуць у асяроддзе, дзе жывуць і працуюць, карыстаючыся харызматамі, якімі валодаюць.

Усведамляючы годнасць чалавечай асобы, дзеляцца ёю, паказваючы, у чым дадзеная годнасць праяўляецца, указваюць на неабходнасць шанавання правоў чалавека на жыццё і свабоду.

Далучаюцца да кожнай ініцыятывы, якая мае на мэце задавальненне мінімальных патрэбаў людзей і асабліва ў сямейным, грамадскім, палітычным, эканамічным і культурным жыцці. Пры вырашэнні праблемаў у дадзенай сферы карэктуюць неўласцівыя, выкарыстоўваемыя кім-небудзь, крытэрыі, прытрымліваюцца хрысціянскай іерархіі каштоўнасцяў.

**З'явы рэлігійнага раўнадушша, секуляры-**

**зацыі і атэізацыі прыспешваюць іх умяшанне ў справу новай евангелізацыі свету.** *Папа гаворыць* проста: «Свецкія каталікі павінны быць актыўнымі і адказнымі ўдзельнікамі ў гэтай справе (евангелізацыі)» (64).

Першай і прынцыповай задачай свецкіх вернікаў з'яўляецца агульная адказнасць за «новую евангелізацыю».

***Што такое новая евангелізацыя?***

*Папа тлумачыць:* Новая евангелізацыя – гэта ў сваім родзе адказ на знакі часу, сярод якіх – раўнадушша да рэлігіі, секулярызацыя і атэізм, што заваёўваюць перадавыя пазіцыі. Маецца на ўвазе паўторная евангелізацыя народаў і краін – г.зн. грамадскасці старога хрысціянства, якая сёння часта страчвае веру і аддаляецца ад Бога. Адрасаты новай евангелізацыі – тыя хрысціяне, якія лічаць сябе хрысціянамі, але якіх адольвае глыбокая супярэчнасць паміж рэлігіяй і штодзённым жыццём; гэта тыя хрысціяне, якія ўвераваліі, але па розных прычынах не дбалі пра развіццё сваёй веры, дазволілі ёй знікнуць і зусім аддаліліся ад Хрыста. Гэта людзі, якія прынялі хрышчэнне, але вера ў іх жыцці перастала адыгрываць якое-небудзь значэнне. Такія людзі знаёмы з хрысціянствам павярхоўна альбо маюць пра яго скажонае ўяўленне і таму ставяцца да Хрыста і хрысціянскай рэлігіі часам прадузята, а часам нават варожа. Касцёл упэўнены, што новая евангелізацыя неабходна, што менавіта яна здолее забяспечыць росквіт чыстай і глыбокай веры.

***Што неабходна зрабіць, каб удзел у новай евангелізацыі быў творчым?***

*Папа тлумачыць:* «Кожны хрысціянін можа і павінен словамі і сваім жыццём абвяшчаць: «Бог любіць чалавека!», «Бог цябе любіць, Хрыстус прыйшоў да цябе, Хрыстус для цябе – «Шлях, Праўда і Жыццё» (пар.Ян 14, 6)». Свецкі вернік павінен далучыцца да сістэматычнай катэхезы, да Св.Літургіі; стаць больш актыўным суб'ектам і аб'ектам евангелізацыі, а значыць, згадзіцца на сваё выхаванне і дапамагаць іншым выхоўвацца паводле Св.Евангелля (пар. 34).

***Ці кожны свецкі можа далучыцца да справы новай евангелізацыі?***

*Папа навучае:* «у дадзеным заданні Касцёла свецкія людзі... прымаюць дзейсны ўдзел» (34) незалежна ад узросту і жыццёвай сітуацыі, а менавіта: моладзь, дзеці, старыя, жанчыны, мужчыны, хворыя, тыя, хто пакутуе. Кожны павінен выконваць пэўнае заданне.

**Моладзь** – гэта «выключная сіла і вялікі выклік для будучага Касцёла» (46), дзякуючы таму, што яна адкрыта для брацтва, сяброўства і салідарнасці.

**Дзеці** нагадваюць нам пра ўмовы ўваходу ў нябеснае валадарства, пра тое, што плён у працы на карысць гэтага валадарства залежыць не толькі ад людскіх намаганняў, а перш за ўсё, – гэта твор Божай ласкі.

**Старыя людзі** валодаюць велізарным вопытам і мудрасцю і з'яўляюцца важным элементам захавання традыцыі Касцёла.

**Жанчыны побач з мужчынамі** пераносяць сваю рэакцыю на духоўныя і рэлігійныя каштоўнасці, а таксама на іх спецыфічную рэалізацыю. Яны неабходны для разнастайнай дзейнасці Касцёла, асабліва ў сферы выхавання, навучання, у сям'і, у сферы культуры.

**«Хворыя** таксама пасланы для працы ў вінаградніку Пана» (53). Яны не толькі аб'ект клопату і самарытанскай службы Касцёла, але і «суб'ект працы ў Касцёле» (54), асабліва сваім скарбам цярпення, які яны нясуць з сабой.

***Дзе павінна распачацца справа новай евангелізацыі?***

*Папа адказвае*: там, дзе ёсць свецкі вернік, а таксама ў парафіі. На яго думку, свецкія вернікі павінны несці большую, чым раней, агульную адказнасць за парафіі. Канкрэтным праяўленнем такой адказнасці будзе іх удзел у розных парафіяльных структурах.

***Што такое парафіяльныя структуры?***

Гэта – брацтвы, трэція законы, задзіночанні, групы, супольнасці і рухі. Іх члены перадаюць адзін аднаму Слова Божае, а таксама служаць іншым. У гэтых разнастайных парафіяльных структурах свецкія вернікі разам са святарамі павінны абмяркоўваць і вырашаць іх актуальныя душпастырскія праблемы. Асабліва яны павінны адчуваць сваю адказнасць за няверуючых, непрактыкуючых людзей, імкнуцца да таго, каб парафія стала «месцам» аб'яднання і «домам, дзверы якога адчынены для ўсіх» (27).

Падчас рэалізацыі свайго паклікання свецкія вернікі не могуць абмяжоўваць сваю дзейнасць межамі парафіі. Яны напамінаюць Касцёлу пра значэнне часовай зямной рэчаіснасці ў збаўленчым Божым плане і вядуць місійную дзейнасць.

**Касцёл добра ўсведамляе неабходнасць новых евангелізатараў**, сярод якіх павінны быць і свецкія вернікі. Таму **Папа заахвочвае маліцца за дастойных евангелізатараў і акцэнтуе ўвагу на іх падрыхтоўцы.** Падрыхтоўка павінна быць такой, каб свецкія вернікі сталі сталымі і адказнымі ў сваім пакліканні і пасланніцтве. Асноўнай мэтай фармавання з'яўляецца ўсё больш поўнае адкрыццё ўласнага паклікання і пасланніцтва і ўсё большая гатоўнасць жыць імі ці выконваць уласную місію ў Касцёле і ў свеце. Гэтае фармаванне павінна дапамагаць свецкім

вернікам адкрыць годнасць Божых дзяцей, распазнаць тое, чаго Бог чакае ад кожнага з іх і ажыццявіць пераход ад усведамлення да канкрэтных рашэнняў і дзеянняў ў жыцці, прычым так, каб у іх учынках не было дуалізму ў жыцці духоўным і свецкім. Дапамогай у гэтым фармаванні будзе ўдзел у Літургіі і ў сістэматычнай катэхезе. А асяроддзем для яе з'яўляюцца арганізацыі, задзіночанні і невялікія парафіяльныя супольнасці.

***Хто павінен стаць выхавацелем дзейсных евангелізатараў?***

*Папа вучыць:* Першым выхавацелем з'яўляецца Пан Бог. Ад імя Бога фармавальна-выхаваўчыя задачы вырашае Касцёл, а ў асяроддзі вернікаў, у першую чаргу, Папа, біскупы і святары. Аднак, яны не адзіныя выхавацелі. У працэсе фармавання ўдзельнічаюць усе члены Касцёла, а таксама пэўная катэгорыя людзей, за якую ніхто не можа вырашыць задачы, напрыклад, бацькі ў дачыненні да сваіх дзяцей, а затым настаўнікі. Важныя выхаваўчыя функцыі выконваюць касцельныя супольнасці, аб якіх гаварылася вышэй, а таксама катэхуменальныя супольнасці. Фармаванне ў Касцёле павінна быць узаемным абдорваннем хрысціянскімі каштоўнасцямі.

***Пры якой умове гэтае абдорванне будзе дынамічным і належным, гэта значыць, будзе выхоўваць і фармаваць?***

Пры ўмове добрай падрыхтоўкі выхавацеляў. Таму неабходна арганізоўваць курсы і навучанне як для духоўных дзеячаў, так і для свецкіх вернікаў, адпаведна становішчу кожнага.

**У канцы адгартацыі Папа піша**: «На парозе трэцяга тысячагоддзя ўвесь Касцёл – пастыры і вернікі – павінен яшчэ больш усвядоміць уласную адказнасць за запавет Хрыста: «Ідзіце ў свет цэлы і прапаведуйце Евангелле кожнаму стварэнню» (пар.Мк 16, 15) і ў новым парыве ажывіць сваю місіянерскую справу. Касцёлу давераны вялікі і адказны ўдзел у цудоўным заданні – новай евангелізацыі, якая так неабходна свету. Свецкія католікі павінны быць надзвычай актыўнымі і адказнымі ўдзельнікамі гэтай справы, будучы паклíканымі для прапаведвання Евангелля і жыцця паводле яго на карысць каштоўнасцяў і патрэбаў асобы і грамадства» (64).*

**Дакумент вянчае малітва да Маці Божай** за пакліканні і місіі свецкіх вернікаў у Касцёле і ў свеце. У ёй таксама ёсць заклік Папы, скіраваны, перш за ўсё, да адрасатаў дакумента: біскупаў, святароў, дыяканаў, манахаў і манашак, а таксама ўсіх свецкіх католікаў.

***Кс. Станіслаў Паўліна fDP***

## ТЛУМАЧЭННЕ ТЭРМІНАЎ

**Адгартацыя** – адабрэнне, заўвага (лац.). Папскі дакумент, які ўказвае актуальныя заданні духоўных і свецкіх вернікаў, звязаныя з іх пакліканнем і місіяй у Касцёле. Датычыць, напрыклад, пытанняў катэхезы, сям'і, фармацыі святароў альбо свецкіх вернікаў. Звычайна адгартацыі з'яўляюцца пасля Сінодаў біскупаў, якія былі прысвечаны пэўнай тэматыцы. Сярод іх ёсць адгартацыя *«Christifideles laici»* ("Свецкія католікі"), якая часта выкарыстоўвалася ў распрацоўцы «Пакліканне і прызванне свецкіх вернікаў у Касцёле і свеце».

**Дуалізм** – з лац. «duo» = два. Дваістасць, паралельнае існаванне дзвюх асобных формаў і прынцыпаў жыцця. Разыходжанне паміж верай і штодзённым жыццём.

**Дыякан** – (ад грэц. "diakonos") – слуга. Той, хто выконвае святарскую паслугу на самай нізкай ступені. Функцыя дыякана была вядома ўжо ў апостальскія часы. Дзеянні Апостальскія (6, 2-6) узгадваюць аб устанаўленні калегіума сямі мужоў, апостальскіх памочнікаў. Святы Павел у Лісце да Філіпянаў (1,1) вітае вернікаў разам з біскупамі і дыяканамі, а ў 1 Лісце да Цімафея пералічвае якасці дыякана (3, 8-10) побач з якасцямі, якія патрабуюцца ад біскупа (3, 1-7). Цяпер дыякан дапамагае біскупу альбо святару пры алтары; ён можа чытаць Евангелле; можа таксама, асабліва пры адсутнасці святара, самастойна ўдзяляць хрост, благаслаўляць шлюб, адпраўляць пахавальныя абрады, кіраваць эўхарыстычным набажэнствам. Пасля II Ватыканскага Сабору вернуты нязменны дыяканат для старэйшых мужчын, жанатых (КК 29). Пастаянныя дыяканы выконваюць давераныя ім адміністрацыйныя і душпастырскія функцыі, і, акрамя таго, – калі гэта ім дазволена – могуць удзяляць святое хрышчэнне, абвяшчаць Слова Божае, удзяляць Св.Камунію, асыставаць пры шлюбах і выконваць пахавальныя абрады.

**Надзвычайны Сінод біскупаў** – сабранне біскупаў, на якім прысутнічаюць усе прадстаўнікі епіскапатаў і якое звычайна адбываецца ў кастрычніку ў Рыме кожныя тры гады. Мэта яго – калегіяльная еднасць паміж біскупамі і Папам, падтрымка парадамі ў справах веры, звычаяў і касцельнай дысцыпліны (DB 5, КРК 342-348). Сінод, скліканы ў 1987г., абмеркаваў ролю свецкіх людзей у Касцёле.

**Секулярызацыя** – з лац. «saecularis» = свецкі. Набыццё свецкага характару, ператварэнне духоўнага ў свецкае. Дадзены выраз адносіцца да кожнага грамадскага ці гістарычнага працэсу, які нясе з сабой выхад чаго-небудзь па-за сакральныя мэты. Адсутнасць ўплыву Касцёла на асобныя сферы грамадскага жыцця.

**Фармацыя** – з лац. «formatio» – азначае фармаванне і выхаванне індывідуальных рысаў, а таксама прызнанне пэўнай сістэмы каштоўнасцяў.

**Харызматы** – ад грэц. «charisma». Спецыяльныя дары Духа Святога, якімі надзяляюцца асобы ці групы асобаў дзеля дабра Касцёла і свету.



# СІНОД
## МІНСКА-МАГІЛЁЎСКАЙ АРХІДЫЯЦЭЗІІ І ПІНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

## KOMUNIKAT
**z posiedzenia Komisji Koordynacyjnej Synodu**

Dnia 31.07.1997 r. w Baranowiczach odbyło się trzynaste posiedzenie Komisji Koordynacyjnej Synodu pod przewodnictwem J.Em. Ks. Kazimierza Kardynała Świątka.

Posiedzenie rozpoczęto po Mszy św. koncelebrowanej.

**1.** Zapoznano się z dokumentem Kongregacji ds. Biskupów i Kongregacji ds. Ewangelizacji Narodów pt. *De synodis diocesanis agendis instructio* z dnia 19 marca 1997 r. i omówiono jego znaczenie dla prac Synodu Archidiecezji mińsko-mohylewskiej i Diecezji pińskiej.

**2.** Ustosunkowano się do projektu schematu *I. Normy generalne i II. Powołanie i posłannictwo wiernych świeckich w Kościele i w świecie*, przygotowanego przez Komisję redakcyjną. Następnie, zgodnie z przepisami Statutu Synodu n.8 i 11, Komisja Koordynacyjna Synodu podjęła decyzję o przedstawieniu projektu schematu J.Em. Ks. Kazimierzowi Kardynałowi Świątkowi, jako biskupowi diecezjalnemu do aprobaty z prośbą o zwołanie Sesji Plenarnej.

**3.** Omówiono szereg spraw związanych z dalszymi pracami synodalnymi.

Obrady zakończono modlitwą.

Następne posiedzenie odbędzie się dnia 2 września br. w Mińsku.

***ks. Stanisław Pawlina fDP***

## КАМУНІКАТ
**пасяджэння Каардынацыйнай Камісіі Сіноду**

31ліпеня 1997г. у Баранавічах адбылося трынаццатае пасяджэнне Каардынацыйнай Камісіі Сіноду пад кіраўніцтвам Яго Эмінэнцыі ксяндза кардынала Казіміра Свёнтка, якому папярэднічала канцэлебраваная Святая Імша.

**1.** Азнаёміліся з дакументам Кангрэгацыі Біскупаў і Кангрэгацыі Евангелізацыі Народаў *De synodis diocesanis agendis instructio* ад 19 марта 1997г. і абмяркоўвалася яго значэнне для працы Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі і Пінскай дыяцэзіі.

**2.** Абмяркоўваліся праекты *1. Генеральныя нормы і 2. Пакліканне і пасланніцтва свецкіх вернікаў у Касцеле і ў свеце,* падрыхтаваныя рэдакцыйнай камісіяй. Пасля, згодна са *Статутам Сіноду п.8 і 11*, Каардынацыйная Камісія Сіноду вырашыла прадставіць гэтыя праекты кардыналу Казіміру Свёнтку, дыяцэзіяльнаму біскупу, для зацвярджэння просьбы аб скліканні Пленарнай сесіі.

**3.** Абмяркоўваліся іншыя пытанні, якія датычаць далейшай працы Сіноду.

Пасяджэнне закончылася малітвай.

Наступнае пасяджэнне адбудзецца 2 верасня г.г. у Мінску.

***кс.Станіслаў Паўліна fDP***





**З 7 да 14 ліпеня Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк удзельнічаў у II Міжнароднай святарскай сустрэчы, якая адбывалася на Беразе Слановай Косці.**

Удзельнічалі ў ёй шэсць кардыналаў, 30 біскупаў, а таксама больш як 1300 святароў з усяго свету. Праграма гэтай сустрэчы была вельмі насычанай. Яна адбывалася ў г.Ямасукра ў самай вялікай марыйнай святыні на свеце – у базыліцы Маці Божай Спакою. Тэма медытацыі – "Святар і Найсвяцейшая Панна Марыя". Брэвяж, медытацыі, канферэнцыі, канцэлебраваная Святая Імша з удзелам усіх кардыналаў, біскупаў і святароў, нешпары, вячэрняе набажэнства, Крыжовая дарога вакол святыні, Ружанец – такая малітоўная праграма спрыяла асаблівай духовай атмасферы, канцэнтрацыі і



пераасэнсаванню Божых запаведзяў. Гэта прыцягнула вялікую колькасць вернікаў, многія з якіх бралі ўдзел у набажэнстве цэлымі сем'ямі. Яго Эмінэнцыя кардынал Казімір Свёнтэк праводзіў 14-ую стацыю Дарогі Крыжовай, пасля заканчэння якой ён благаславіў вернікаў крыжам, з якім вернікі абыходзілі Крыжовую Дарогу.

Галоўнай мэтай спаткання было дапамагчы святарам і законнікам як найлепш падрыхтавацца да святкавання Юбілею 2000 Года, пра неабходнасць чаго для ўсяго Касцёла гаворыць Ян Павел II.

Сустрэча святароў мела важнае значэнне для афрыканскага Касцёла. Так, на яе адкрыцці гаварылася аб недахопе глыбіні евангелізацыі ў Афрыцы. Арцыбіскуп Рыа-дэ-Жанэйра кардынал Эўгеніо Салес падкрэсліў, што неабходна шукаць новыя дарогі душпастырства і катэхізацыі, "каб афрыканцы маглі зразумець, што Хрыстус з'яўляецца адным з іх".

Сёлетняя медытацыя – гэта чарговая святарская сустрэча, прысвечаная Вялікаму Юбілею 2000 Года. Першая, якая па ініцыятыве Папы Яна Паўла II распачала цыкл такіх медытацый, адбылася ў мінулым годзе ў Фаціме – партугальскім мястэчку, дзе 80 гадоў таму маленькім пастушкам аб'яўлялася Маці Божая. Да 2000 году такіх медытацый мае адбыцца яшчэ тры: у 1998г. – у Мексіцы, у 1999г. – у Ерусаліме, у 2000г. – у Рыме, у базыліцы святога Пятра.

# *Разам з Марыяй – праз усё жыццё*

*Кароткія разважанні ў ранішняй брэвяжовай Літургіі Laudes*

Роздум пра лучнасць, што яднае Найсвяцейшую Панну Марыю з асобай Святара, я пачну словамі, якія ўпісаў у свой біскупскі герб Папа Ян Павел II: "Totus Tuus" – "Цалкам Твой". 8 снежня 1978г. Святы Айцец усклікаў: "Я – цалкам Твой і ўсё, што маю, належыць Табе".

Гэта пачатак марыйнага служэння Папы Яна Паўла II, які цалкам прысвяціў сябе Найсвяцейшай Панне Марыі. Пры кожнай нагодзе Папа абвяшчае глыбокія марыйныя катэхезы, падчас сваіх апостальскіх падарожжаў наведвае марыйныя святыні, кожны свой ліст, кожны дакумент заканчвае марыйным роздумам.

У сваёй кнізе "Пераступіць парог надзеі" Папа вызнае, што адданне сябе без рэшты Найсвяцейшай Маці арганічна вынікае з таго, што адбылося на Галгофе і запісана ў Евангеллі паводле св. Яна: "Езус жа, угледзеўшы Маці і стаяўшага побач вучня, якога любіў, кажа Маці сваёй: Жанчына, вось сын Твой! Пасля кажа вучню: вось Маці твая! І з гэтага часу вучань гэты ўзяў Яе да сябе" (пар.Ян 19, 26-27).

З вышыні крыжа Езус абвяшчае свой запавет: Ён даручае нас сваёй Маці. І, як спаўненне гэтага аддання і даручэння, Марыя, выконваючы запавет свайго Сына: "Жанчына, вось сын твой!", становіцца Маці апостала Яна, а праз яго – Маці кожнага з нас. І сапраўды, Марыя ёсць з вучнямі Свайго Сына, чувае з імі на малітве, разам з імі ў Вячэрніку атрымлівае дары Духа Святога. А потым уся доўгая гісторыя Касцёла сведчыць пра Яе лучнасць са святарамі, клопат, апеку і заступніцтва за святароў перад Сынам.

А што робіць Ян? У адказ на словы свайго Настаўніка: "Вось Маці твая", – "І з гэтага часу вучань гэты ўзяў Яе да сябе" (пар.Ян 19, 27). Але ж не толькі Ян быў дручаны Марыі, але і Яна была даручаная Яну. Гэтак на аснове запавету Хрыста нараджаецца новая, адзіная ў сваім родзе, лучнасць вучня Езуса з Яго Маці. Словы "ўзяць да сябе" азначаюць больш, чым прыняцце Марыі вучнем ў сэнсе прадастаўлення Ёй памяшкання і ўтрымання ў сваім доме. Хутчэй, гэта азначае супольнасць жыцця ў Богу, у Хрысце. Але хоць святы Ян быў любімым вучнем Езуса, аднак той жа Ян, калі стаяў пад крыжам, мог баяцца суровага позірку і папроку Езуса. Бо Ян у Садзе Аліўным, незадоўга пасля Апошняй Вячэры, падчас якой спачываў на грудзях Збаўцы, калі арыштоўвалі Езуса, уцёк разам з іншымі Апосталамі. Праўда, праз некаторы час ён вярнуўся і разам з Пятром ішоў за Хрыстом, але "здалёк", аб чым сведчыць Евангелле паводле святога Марка. На судзе ён не стаў каля свайго Настаўніка і не абараняў Яго. Падчас крыжовай дарогі не Ян, а нейкі выпадковы прахожы дапамагаў Езусу несці крыж. Праўда, ён стаў пад крыжам, але, мабыць, усведамляючы ўласную слабасць, бездапаможнасць і віну перад сваім Настаўнікам, распятым на крыжы.

І менавіта тады ён пачуў з вуснаў Езуса не словы асуджэння і дакору, але словы надзеі, суцяшэння і любові: "Жанчына, вось сын Твой!", "Вось Маці твая!"

І Ян, у адказ на гэты цудоўны выраз клопату і любові з боку Езуса, бярэ Марыю да сябе: "І з гэтага часу вучань гэты ўзяў Яе да сябе", – і пачынае з Маці Езуса супольнасць жыцця паводле навукі свайго Настаўніка.

А цяпер гляньма на сябе. Як і Ян, мы таксама з'яўляемся вучнямі Езуса. Пазнанне ўласнай слабасці і грэшнасці – гэта галоўная ўмова адкрыцца сябе для вялікага дару даручэння нас Марыі. Збавіцель бачыць нашае прызнанне ў грахах і бездапаможнасці ў змаганні са злом, і дае нам, як асаблівую дапамогу, сваю Маці.

На аснове ўсведамлення нашай грэшнасці і адказу на Хрыстовы дар з крыжа "Вось Маці твая" павінна вырасці ў нас разуменне неабходнасці даручыць сябе Найсвяцейшай Маці, а ў выніку – імкненне жыць штодня ў з'яднанні з Марыяй. Так, як жылі многія святыя, як жыве Папа Ян Павел II.

Асмелюся тут, і прашу не палічыць гэта за прыватную думку, падзяліцца марыйным вопытам з маіх 58 гадоў святарства. Калі вучыўся яшчэ ў сярэдняй школе, я ўступіў у "Sodalis Marianus" і прысягнуў ушаноўваць Найсвяцейшую Маці, штодня тройчы прамаўляючы малітву "Вітай, Марыя". Гэтае абяцанне я дакладна спаўняю ўжо амаль 70 гадоў. І я глыбока перакананы, што гэтыя тры "Вітай Марыя", між іншым, захавалі маё жыццё падчас цяжкіх і страшных 10 гадоў турмаў і лагераў савецкага ГУЛАГу, а пасля выхаду на волю далі магчымасць працягваць святарскае служэнне.

*Дарагія браты ў святарстве!*

Ужо сёння, ужо цяпер давайце пачнем новы раздзел нашага жыцця – жыцця з Марыяй. Няхай з гэтай хвіліны Яна заўсёды будзе з намі. Няхай яднае нас са сваім Сынам. Няхай дапамагае нам быць адкрытымі на дзеянне Духа Святога. Найпрацейшая дарога, якая вядзе дакладна і бяспечна да Езуса Хрыста, нашага Збаўцы, – гэта даручэнне саміх сябе і нашага святарскага служэння Найсвяцейшай Панне Марыі, Маці Божага Сына і нашай Маці.

"І з гэтага часу вучань гэты ўзяў Яе да сябе."

І з гэтага часу я бяру Яе да сябе...

Амэн.

*Санктуарый Маці Божай Спакою ў Ямасукры, 09.07.97г.*

***Кардынал Казімір Свёнтэк***

# *Zacznijmy nowy rozdział naszego życia: Z Maryją...*

*Krótka refleksja w porannej liturgii brewiarzowej Laudes*

Refleksję na temat związku łączącego Najświętszą Maryję Pannę z osobą Kapłana rozpocznę od przytoczenia hasła, jakie wpisał w swój herb biskupi papież Jan Paweł II: "Totus tuus" – "Cały Twój". W dniu 8 grudnia 1978 roku Ojciec Święty wołał: "Jestem cały Twój i wszystko, co posiadam należy do Ciebie".

To jest początek maryjnej posługi Jana Pawła II, oddanego bez reszty Najświętszej Maryi Pannie. Papież przy każdej okazji głosi głębokie katechezy maryjne, w swych podróżach apostolskich nawiedza sanktuaria maryjne, każde swe pismo, każdy dokument kończy refleksją maryjną.

W swej książce "Przekroczyć próg nadziei" papież wyznaje, że oddanie się bez reszty Matce Najświętszej wynika organicznie z tego, co miało miejsce na Golgocie, a zapisane w Ewangelii według św. Jana: "Kiedy więc Jezus ujrzał Matkę i stojącego obok Niej ucznia, którego miłował, rzekł do Matki: "Niewiasto, oto syn Twój". Następnie rzekł do ucznia: "Oto Matka twoja". I od tej godziny uczeń wziął Ją do siebie" (J 19, 26-27).

Z wysokości krzyża Jezus wypowiada swój testament: zawierza nas swojej Matce. I w następstwie tego oddania i zawierzenia Maryja, wypełniając zlecenie swego Syna, "Niewiasto, oto syn Twój", staje się Matką Jana, a przez niego Matką każdego z nas. I rzeczywiście Ona jest z uczniami Jej Syna, trwa z nimi na modlitwie, otrzymuje z nimi w Wieczerniku dary Ducha Świętego. A potem całe długie dzieje Kościoła świadczą o Jej łączności z kapłanami, jej trosce, opiece i wstawiennictwie o kapłanach u Jej Syna.

A co czyni Jan? W odpowiedzi na słowa swego Mistrza "Oto Matka twoja" – "I od tej godziny wziął Ją do siebie" (J 19, 27). A więc nie tylko Jan został zawierzony Maryi, ale i Ona została powierzona Janowi. I tak na mocy testamentu Chrystusa powstaje nowa, jedyna w swoim rodzaju więź między uczniem Jezusa i Jego Matką. To "wziąć do siebie" oznacza więcej niż przyjęcie Maryi przez ucznia w sensie użyczenia Jej mieszkania i utrzymania w swoim domu. Oznacza raczej rodzaj wspólnoty życia w Bogu, w Chrystusie. Ale chociaż święty Jan był umiłowanym uczniem Jezusa, to jednak tenże Jan, stojący pod krzyżem, mógł obawiać się surowego spojrzenia i wyrzutu ze strony Jezusa. Przecież Jan w Ogrodzie Oliwnym, wkrótce po Ostatniej Wieczerzy, w której spoczywał na piersi Zbawiciela, w momencie pojmania Jezusa uciekł jak i inni Apostołowie. Wprawdzie po pewnym czasie wrócił i razem z Piotrem szedł za Chrystusem, ale, jak czytamy w Ewangelii według świętego Marka "z daleka". Na procesie nie stanął przy swoim Mistrzu i nie bronił Go. W czasie drogi krzyżowej to nie Jan, ale jakiś przygodny przechodzień pomagał dźwigać Jezusowi krzyż. Prawda, wstał pod krzyżem, ale zapewnie świadomy swej słabości, bezradności i przewinienia wobec swego Mistrza, rozpiętego na krzyżu.

I właśnie wtedy z ust Jezusa usłyszał nie słowa wyrzutu, nagany, ale słowa nadziei, pociechy i miłości: "Niewiasto, oto syn Twój", "Oto Matka twoja".

I Jan na ten wspaniały wyraz troski i miłości ze strony Jezusa, bierze Maryję do siebie – "I od tej godziny uczeń wziął Ją do siebie" i rozpoczyna z Matką Jezusa wspólnotę życia według nauki swojego Mistrza.

A teraz spójrzmy na siebie. My też jak Jan jesteśmy uczniami Jezusa. Poznanie własnej słabości i grzeszności to podstawowy warunek otwarcia się na wielki dar zawierzenia nas Maryi. Zbawiciel, widząc nasze przyznanie się do grzechu i bezradności w walce ze złem, daje nam jako szczególną pomoc, swoją Matkę.

Na gruncie doświadczenia, że jesteśmy grzeszni i w odpowiedzi na Chrystusowy dar z krzyża "Oto Matka twoja", powinna powstać w nas świadomość konieczności zawierzenia siebie Matce Najświętszej, a w następstwie pragnienie życia na codzień w zjednoczeniu z Maryją. Tak, jak żyło wielu świętych, jak żyje papież Jan Paweł II.

Ośmielam się tu i proszę tego nie przyjąć jako oznaki mojej prywaty, podzielić się moim doświadczeniem maryjnym z moich 58 lat kapłaństwa. Będąc jeszcze uczniem szkoły średniej złożyłem przyrzeczenie jako "Sodalis Marianus" okazywać pamięć o Matce Najświętszej przez odmawianie codziennie 3 "Zdrowaś Maryja". Przyrzeczenia tego dochowuję skrupulatnie już prawie 70 lat. I jestem głęboko przekonany, że te 3 "Zdrowaś Maryje" m.in. zachowały mię przy życiu w czasie ciężkich i strasznych 10 lat więzień i obozów sowieckiego GUŁAGU i dały możność po wyjściu na wolność przedłużać posłannictwo kapłańskie.

Drodzy współbracia w kapłaństwie.

Już teraz, już dzisiaj zacznijmy nowy rozdział naszego życia: Z Maryją. Niech już od dziś będzie Ona zawsze z nami. Niech nas jednoczy ze swym Synem. Niech nas otwiera na działanie Ducha Świętego. Najprostszą drogą prowadzącą pewnie i bezpiecznie do Jezusa Chrystusa, naszego Zbawiciela, jest zawierzenie nas samych i naszego posłannictwa kapłańskiego Najświętszej Maryi Pannie, Matce Syna Bożego i Matce naszej.

"Od tej godziny uczeń wziął Ją do siebie".

Od tej godziny ja Ją biorę do siebie...

Amen.

*Sanktuarium Matki Pokoju w Yamoussoukro (WKS) 09.07.97 r.*

***Kazimierz Kardynał Świątek***

# ВАТЫКАН

## Усталяванне дыпламатычных адносінаў Апостальскай Сталіцы і Анголы

У ліпені Апостальская Сталіца ўсталявала дыпламатычныя адносіны з афрыканскай краінай – Рэспублікай Анголай, якая стала 168-й дзяржавай, што падтрымлівае дыпламатычныя стасункі з Ватыканам.

У Анголе, дзе толькі цяпер паявілася надзея на мірнае заканчэнне 20-гадовай грамадзянскай вайны, пражывае 11 млн. жыхароў, палова з іх – каталікі. Касцёл у Анголе налічвае тры мітраполіі з 12 дыяцэзій. Епіскапат краіны складаецца больш як з 20 біскупаў, на чале епіскапату стаіць арцыбіскуп Луанды (сталіцы Анголы) кардынал Александрэ до Насцімэнто. (KAI)

## Ватыкан далучаецца да міжнародных дамоваў

Апостальская Сталіца ратыфікавала ў ліпені дзве міжнародныя дамовы, паводле якіх краіны-ўдзельніцы дамоваў абмяжуюць альбо цалкам спыняць выкарыстанне некаторых відаў зброі, што прыносяць асаблівыя пакуты іхнім ахвярам (напр., пэўныя віды мінаў). Хоць дзяржава Ватыкан ніколі не ўдзельнічала ў войнах, але, як паўнацэнны суб'ект міжнароднага права, паслядоўна далучаецца да асноўных міратворчых дамоваў, каб падкрэсліць каштоўнасць спакою ва ўсім свеце і асаблівую зацікаўленасць у гэтым Касцёла. (KAI/RV)

# НАВІНЫ ЗАМЕЖЖА

## ІТАЛІЯ: Успамін пра гераічны ўчынак біскупа

У горадзе Трані нядаўна адзначалася 50-я гадавіна смерці мясцовага біскупа Франчэска Петранэлі, які ў часы апошняй вайны ахвяраваў сваё жыццё за ўратаванне 50 чалавек.

У 1943г. недалёка ад могілкаў у Трані партызанскі патруль абстраляў немцаў, у выніку чаго загінулі пяцёра гітлераўскіх салдат. Нямецкае камандаванне пастанавіла расстраляць па 10 заложнікаў за кожнага забітага. Ужо назаўтра арыштавалі 50 непавінных людзей, сярод якіх было шмат моладзі. Тады ўмяшаўся біскуп Петранэлі разам са сваім генеральным вікарыем монсеньёрам Перронэ. Калі іхнія просьбы памілаваць асуджаных на смерць не дапамаглі, біскуп Петранэлі прапанаваў уласнае жыццё ўзамен за вызваленне заложнікаў. Нямецкі камандзір, пабачыўшы такі гераічны жэст, загадаў вызваліць усіх затрыманых, але і біскупа не пазбавіў жыцця.

У дзень 50-й гадавіны смерці біскупа (дыяцэзіяй Трані ён кіраваў з 1939 да 1947г.) была адкрытая памятная дошка ў ягоны гонар і ў мясцовай катэдры адслужана ўрачыстая Імша. (KAI)

## ІТАЛІЯ: Узнагарода арцыбіскупу за барацьбу супраць мафіі

Кардынал Сальваторэ Паппалярда, былы (на пенсіі) арцыбіскуп Палерма, атрымаў узнагароду "Citta del Sole" (Горад сонца) за ўклад у перамогу арганізаванай злачыннасці на Сіцыліі. У абгрунтаванні падкрэсліваецца, што кардынал, які на працягу 25 гадоў біскупскага служэння ў Палерма шматразова заклікаў да барацьбы з мафіяй, спрычыніўся да абуджэння сумлення людзей і паўплываў на змену іхняга стаўлення да злачынстваў мафіі. (KAI/KNA)

## ІТАЛІЯ: Італьянскі біскуп сярод наркаманаў

Біскуп Ночэры Джоакіно Іліано правёў тыдзень у прытулку для наркаманаў і інвалідаў. Такую нетыповую дарогу выбраў біскуп, каб непасрэдна пабачыць жыццё наркаманаў. Разам з ім да прытулку прыйшлі таксама студэнты духоўнай семінарыі. (KAI/KNA)

## ІСПАНІЯ: Біскупы рэзка асудзілі тэрарызм

Іспанскія біскупы рашуча асудзілі забойства баскскімі тэрарыстамі 29-гадовага дэпутата з баскскай мясцовасці Эрмуа Мігеля Гаррыда. Біскуп з Більбао, які ўзначаліў цырымонію пахавання, заклікаў усю грамадскасць працягваць мірнае змаганне супраць гвалту. "Помста не з'яўляецца адказам, годным чалавека", – сказаў ён, а таксама нагадаў словы Яна Паўла II, які ахарактарызаваў апошнюю акцыю баскскай радыкальнай арганізацыі ЕТА як варварскае забойства, і падкрэсліў, што тэрарызм паказаў сваё халоднае і бязлітаснае, поўнае лютасці і нікчэмнасці аблічча. Ардынарый Більбао адназначна асудзіў арганізацыю ЕТА, на якой ляжыць поўная адказнасць за забойства непавіннага чалавека. (KAI)

## ІСПАНІЯ: Сустрэча каталіцкіх студэнтаў і навукоўцаў

У Санцьяга-дэ-Кампастэла адбылася VII сустрэча Таварыства каталіцкіх студэнтаў і навуковых работнікаў Еўропы (AICE). Праграма спаткання складалася з канферэнцый, семінараў, экскурсій, канцэртаў і богаслужэнняў. 130 удзельнікаў сёлетняга спаткання разважалі над тэмай "Арэапаг Еўропы. Евангелізацыя і сродкі масавай лучнасці". (KAI)

## "НЕ БОЙЦЕСЯ!"

*XII Сусветныя дні моладзі ў Парыжы*
*Жнівень 1997*

14 жніўня пачаліся XII Сусветныя дні моладзі, якія гэтым разам адбываюцца ў Францыі. Іхнім лозунгам стала цытата з Евангелля: "Устаньце, не бойцеся". З 21 да 24 жніўня ўдзел у гэтым вялікім маладзёжным форуме возьме і Папа Ян Павел II.

Першыя чатыры дні ўдзельнікі спаткання правядуць у розных французскіх дыяцэзіях, каб як найбліжэй пазнаёміцца з паўсядзённым жыццём французскага Касцёла і ягонымі вернікамі, а таксама падрыхтавацца да асноўнай часткі гэтых дзён. Удзельнікі стануць гасцямі парафій і каталіцкіх сем'яў.

Парыжская частка спаткання пачнецца ў панядзелак 18 жніўня, а афіцыйнае адкрыццё адбудзецца ўвечары ў аўторак на Марсавым полі, дзе арцыбіскуп Парыжа кардынал Ж.-М.Люстыжэ адслужыць Святую Імшу.

Арганізатары чакаюць, што лік удзельнікаў спаткання перавысіць паўмільёна чалавек з 163 краінаў свету. Да ўдзелу ў ім запрошаная моладзь ад 18 да 35 гадоў. У штабе спаткання будзе працаваць да 12 тыс. валанцёраў. Многія фірмы дапамагаюць арганізатарам бясплатна: выдавецтва Editions Fleuru-Mame надрукавала 300 тыс. брашур на 6-ці мовах, агенцтва Publicis правяло шырокую рэкламную кампанію спаткання ў кінатэатрах, на радыё, у метро і аэрапортах. Ад чэрвеня амаль 400 шчытоў па ўсім Парыжы прадстаўляюць "фірмовы знак" гэтых дзён, якому спадарожнічае адна з трох евангельскіх цытатаў: "Устаньце, не бойцеся", "Любіце ворагаў сваіх" і "Майце надзею".

Але ж не гэтыя клопаты запомняцца ўдзельнікам спаткання і арганізатарам. Гэтыя дні маюць на мэце тры аспекты: спатканне з Хрыстом, спатканне моладзі з усяго свету, супольнае свята і забавы. Вялікія літургічныя сустрэчы будуць змяняцца часам на роздум і асабістую малітву, вячэрнімі і начнымі чуваннямі, рознымі забавамі з праграмы маладзёжнага фестывалю. 318 біскупаў на 20 мовах прапануюць удзельнікам катэхезы на евангелічныя тэмы: "У пошуку аблічча Пана" (Мк 10, 17-22), "Езус жыве ў Слове" (Ян 1, 35-45), "Езус жыве ў Эўхарыстыі" (Ян 6, 48-58). Праграму штодзённых супольных малітваў падрыхтавала манастычная супольнасць з Тэзэ. Удзельнікі спаткання змогуць таксама ўключыцца ў асветніцкія і забаўляльныя акцыі ў Парыжы і ваколіцах.

Галоўным госцем спаткання стане Папа. 24 жніўня, у нядзелю, ён адслужыць урачыстую Святую Імшу, на якую, канешне, збяруцца не толькі ўдзельнікі дзён моладзі. Ян Павел II таксама возьме ўдзел у чуванні разам з моладдзю. (KAI)

### Візіт Папы ў Францыю

Папа Ян Павел II наведае 21-24 жніўня Парыж. Гэта будзе ўжо сёмы візіт Святога Айца ў Францыю. Галоўным момантам візіту стане ўдзел у міжнародным спатканні моладзі. Папа таксама сустрэнецца з прэзідэнтам Францыі Жакам Шыракам і лідэрамі грамадскага жыцця краіны, а 22 жніўня ён беатыфікуе Фрэдэрыка Азанама.

Фрэдэрык Азанам нарадзіўся ў 1813г. у Парыжы, вывучаў гандлёвае права і літаратуру ў Сарбоне, а потым стаў выкладчыкам у гэтым універсітэце. Ён быў свецкім чалавекам, меў дачку. Ф.Азанам заклаў Таварыства св.Вінцэнта ад Паўла, якое дапамагала ўбогім і людзям, што знаходзіліся ў складанай жыццёвай сітуацыі. Ён спрычыніўся да выпрацоўкі каталіцкага сацыяльнага вучэння, многія ягоныя думкі знайшлі месца ў энцыкліцы "Rerum Novarum" Папы Льва XIII. Памёр Ф.Азанам ва ўзросце 40 гадоў.

### АЎСТРЫЯ: Еўрапейскае спатканне моладзі пройдзе ў Вене

Штогадовае экуменічнае спатканне еўрапейскай моладзі, якое арганізуе супольнасць Тэзэ з Францыі, сёлета пройдзе ў аўстрыйскай сталіцы. Пачнецца яно 28 снежня, а закончыцца, як звычайна, у першы дзень будучага году.

### СУДАН: Разбураная каталіцкая школа

Яшчэ адна каталіцкая школа разбураная ў афрыканскім Судане, дзе большасць насельніцтва складаюць мусульмане. 8-гадовую школу наведвалі каля 800 дзяцей. (KAI/KNA)

### КІТАЙ: Пекін адмаўляе крытыку ЗША

Улады Пекіна абверглі абвінавачванні ЗША, нібыта ў краіне не захоўваецца рэлігійная свабода. Прадстаўнік кітайскага ўраду заявіў, што заходні свет, асабліва ЗША, "не разумеюць рэлігійнай сітуацыі ў Кітаі" і выкарыстоўваюць рэлігію як прычыну для крытыкі і ўмяшання ў справы краіны.

У рапарце амерыканскага Дэпартаменту стану крытыкуецца факт пераследу членаў рэлігійных арганізацый, якія кітайскі ўрад не прызнае. Прынамсі, 4 біскупы Каталіцкага Касцёла арыштаваныя, а ў дамах многіх святароў праводзяцца вобыскі.

Каталіцкую рэлігію ў краіне могуць свабодна вызнаваць толькі члены заснаванага ў 1957г. патрыятычнага таварыства кітайскіх католікаў, якое не падтрымлівае стасункаў з Ватыканам. Вернікі і духавенства вернага Рыму падпольнага Касцёлу пераследуюцца ўладамі. У 1957г. КНР разарвала дыпламатычныя стасункі з Апостальскай Сталіцай. (KAI/KNA)

